ГАЗЭТА БЕЛАРУСАЎ У ВОЛЬНЫМ СЬВЕЦЕ. ЦАНА—PRICE $ 1.25

# Беларус

BIELARUS — BYELORUSSIAN NEWSPAPER IN THE FREE WORLD
Post address: Bielarus, P. O. Box 178, Jamaica, N. Y. 11431

Год. XXXI Но. 297 — Нью Ёрк — люты — 1982 — February — New York — Vol. XXXI № 297

*БЕЛАРУСКА-АМЭРЫКАНСКАЕ ЗАДЗІНОЧАНЬНЕ*
*— Галоўная Ўправа —*
*— Управа Акругі Нью Ёрк — Управа Аддзелу ў Нью Джэрзі —*
*АРГАНІЗАЦЫЯ БЕЛАРУСКА-АМЭРЫКАНСКАЕ МОЛАДЗІ*

*запрашаюць Вас на*

*ЎРАЧЫСТАЕ СЬВЯТКАВАНЬНЕ 64-ЫХ УГОДКАЎ*

АБВЕШЧАНЬНЯ НЕЗАЛЕЖНАСЬЦІ БЕЛАРУСІ
АКТАМ 25 САКАВІКА 1918 г.

*што адбудзецца ў*
*НЯДЗЕЛЮ 28 САКАВІКА 1982 г. (пачатак а 2-ой гадз. п/п.)*

*у залі („Крыстал Рум", 2-гі паверх) гатэлю Дорал Ін*
*на 50-ай вул. і Лэксынгтан Авэню*
*ў Мангэтэне, Нью Ёрк*
*Даезд падземкай: лінія ІРТ (АйАрТы) да 51-ай вул.*

## “НЕПАТРЭБНЫ ПРЫВЕСАК”

У кожнае з трох паваенных шматтомавых выданьняў збору твораў Янкі Купалы цэнзура не прапушчала пэўны лік Купалавых твораў. Не прапушчала дзеля дзьвюх прычынаў: з аднаго боку, каб не паказваць праўдзівага твару Янкі Купалы, а з другога — каб не паказаць праўдзівага твару савецкае сыстэмы.

І сёлета, калі на Беларусі адзначаецца стагодзьдзе нарадзінаў Купалы, людзі й дагэтуль ня ведаюць усяе творчасьці народнага песьняра, а тыя, хто ведае, стаяць перад неадказаным пытаньнем: што ў гэтай творчасьці Купалава, а што — не?

На студзень-люты сёлета прыпадаюць 20-я ўгодкі ад часу, калі гэтае пытаньне было фармальна пастаўленае на пленуме пісьменьніцкае арганізацыі Беларусі. Гэтак, у студзені 1962 году, на 4-м пленуме праўленьня Саюзу пісьменьнікаў Беларусі тагачасны старшыня Саюзу Пятрусь Броўка ў сваім дакладзе (выдрукаваным у газэце „Літаратура і Мастацтва" за 2 лютага 1962 г.) сказаў:

**„Культ Сталіна тармазіў, скоўваў, абмяжоўваў думку мастака і, вядомая рэч, зьбядняў творы мастацтва. Агульнавядомыя і тыя цяжкія страты, якія панесьлі ад культу савецкая літаратура і мастацтва. Нямала страціла і наша беларуская літаратура. У часе ўздыму беларускай савецкай мастацкай літаратуры, у часе яе надзвычайнага росту, культ асобы суровымі і жорсткімі рукамі абламаў і зьнявечыў галіны яе цьвітучага дрэва, і многім актыўным працаўніком літаратуры і мастацтва нізавошта давялося адпакутваць у жахлівых умовах многія гады, а шмат каму разлучыцца і з жыцьцём . . . усе мы аддалі пэўную даніну гэтаму. Навет такія мудрыя і непахісныя людзі, як нашы настаўнікі Янка Купала і Якуб Колас, шмат у сваіх творах ушаноўвалі культ асобы. Добра, што Якуб Колас пры жыцьці здолеў многія свае лепшыя творы ачысьціць ад гэтага наносу, а вось Купала прарабіць такую працу ўжо ня мог. На вялікай частцы яго твораў савецкага пэрыяду і ляжыць гэты непатрэбны прывесак. І цяпер трэба думаць, што рабіць. Мне думаецца, што з тых твораў, у канцы якіх словы 'вялікі Сталін' былі проста прычэплены, як віза для друку, словы гэтыя неабходна зьняць, бо самі творы добрыя і высокамастацкія, і ніякага дачыненьня да культу, апрача пэўнага прывеску, ня мелі. Можа мне скажуць, што гэта ня зусім навукова, але гэта правільна. Бо мы ўсе добра ведаем, як ставіўся да культу Янка Купала і зусім перакананы ў тым, што калі-б ён жыў, ён з радасьцю зрабіў-бы гэта сам сягоньня."**

Пятрусю Броўку (памёр у 1980 г.) належыцца шчырае прызнаньне за гэтую прынцыпова важную заяву. Гэткім парадкам, стаіць дагэтуль не разгледжанае літаратурнымі крытыкамі й гісторыкамі літаратуры ключавое пытаньне: што ў Купалавай літаратурнай спадчыне становіць той, кажучы Броўкавымі словамі, „непатрэбны прывесак", ад якога Купала „з радасьцю" адрокся-б, калі-б ён быў жывы дваццаць гадоў таму?

Пятрусь Броўка, аднак, даволі спрошчана ўяўляў сабе разьвязаньне гэтае праблемы — што ў Купалы Купалава? — калі казаў, што „з тых твораў, у канцы якіх словы 'вялікі Сталін' былі проста прычэплены, як віза для друку, словы гэтыя неабходна зьняць, бо самі творы добрыя і высокамастацкія".

Але калі паглядзець на Купалавы творы сталінскага часу — а час гэты для Купалы трываў прынамся ад ягонае спробы самагубства ў 1931 годзе і аж да загадкавае сьмерці ў 1942 годзе — дык у шмат якіх вершах словаў „вялікі Сталін" няма, а сталінскага духу ў іх поўна. Прыкладам гэтаму можа быць верш „Табе, правадыр", які Купала быў вымушаны напісаць у год сталінскае канстытуцыі 1936-ты (датаваны 20 лістапада). На шостым годзе па сваёй спробе скончыць жыцьцё самагубствам, у часох фізычнага й маральнага тэрору, пачатку гэтак званае яжоўшчыны, Купала пісаў:

Табе, правадыр, мае песьні і думы,
I шчырыя шчырага сэрца
парывы!
Бо хто калі сьніў, ды хто
калі думаў,
Што буду я вольны, што буду
шчасьлівы.

Бо хто калі думаў, што я
жыці буду,
Як птушка, як вецер над нівай
квяцістай,
I дзівам дзівіцца вялікаму цуду,
Што вокал мяне так цуднее
ўрачыста.

Што ты, правадыр, нібы
яснае сонца,
Мне вочы адкрыеш на землі
і неба . . .
Сьвяціся-ж ты, сонца, ў маё
век аконца!
Вітаю цябе я і сольлю і хлебам.

Пятрусь Броўка на пісьменьніцкім пленуме ў студзені 1962 году прапанаваў зьняць з Купалавых вершаў толькі словы „вялікі Сталін", бо самыя творы, казаў Броўка, „добрыя і высокамастацкія". Пра верш „Табе правадыр" можна й гэтак сказаць: гэта — высакамастацка зьдзеклівы сарказм на сталіншчыну — сарказм, відавочны кожнаму, хто ведае трагічныя факты Купалавае біяграфіі.

Янка Купала быў майстрам іроніі, сарказму, самабічаваньня (прыкладам, у вершы „Перад будучыняй", гл. у папярэднім нумары „Беларуса"). Ёсьць у Купалавай творчасьці сталінскага пэрыяду й сьведамая прымітывізацыя вершу — свайго роду літаратурны сабатаж — таксама як форма пратэсту супраць спачварваньня паэзіі хваласьпевамі тырану.

Таму мы паўтараем Броўкавы словы дваццацігадовае даўнасьці, што аніяк ня страцілі свае войстрае актуальнасьці, наадварот — завайстрыліся ў гэтай актуальнасьці ў сувязі зь сёлетнім юбілеем: „НА ВЯЛІКАЙ ЧАСТЦЫ КУПАЛАВЫХ ТВОРАЎ САВЕЦКАГА ПЭРЫЯДУ ЛЯЖЫЦЬ ГЭТЫ НЕПАТРЭБНЫ ПРЫВЕСАК. І ЦЯПЕР ТРЭБА ДУМАЦЬ, ШТО РАБІЦЬ".

## ЯК АКАДЭМІКІ БАЦЬКАЎШЧЫНУ ЎКРАЛІ

Акадэмікі - моваведы Беларускае ССР, тыя, што ўкладалі першы том пяцітомавага „Тлумачальнага слоўніка беларускай мовы" (Інстытут мовазнаўства імя Якуба Коласа, Менск, 1977) дадумаліся да вельмі хітрага азначэньня слова „Бацькаўшчына", выкруціўшы гэтае азначэньне так, што зь яго выцісну тая „Беларусь". Вось як нам тлумачаць беларускія савецкія акадэмікі слова „бацькаўшчына":

„**БАЦЬКАЎШЧЫНА**, ы, ж. 1. Для кожнага чалавека краіна, дзе ён нарадзіўся, грамадзянінам якой ён зьяўляецца. **Працоўныя справы і духоўныя імкненьні беларуса — родныя ўсім народам сацыялістычнай бацькаўшчыны.** Лужанін. **Паволі разыходзіліся салдаты, поўныя дум пра лёс сваёй бацькаўшчыны, сем'яў, пра сваё асабістае жыцьцё.** Гурскі.

„2. Родны куток, месца, дзе нарадзіўся і вырас хто-небудзь. — **Якая прыгожая Асінаўка! — заўважыла Маша. — Бацькаўшчына твая, а ты не хацеў сюды ехаць.** Гроднеў. // Месца, дзе што-небудзь значнае адбылося, дало чаму-небудзь важнаму пачатак. **Савецкі Саюз — бацькаўшчына сацыялістычнай рэвалюцыі.**

„3. Набытак бацькі, спадчынная маёмасьць. **(Пра…он сыну:) — Растрасе бацькаўшчыну. Хутка (прагуляе), што нажыў бацька за свой век.** Баранавых".

Паспрабуйце цяпер, карыстаючыся гэтым азначэньнем, устанавіць, каго мае наўвеце, прыкладам, беларускі савецкі паэта Ніл Гілевіч у сваім вялікім творы, рамане ў вершах „Родныя дзеці". У газэце „Літаратура і Мастацтва" з 28-га жніўня летась быў зьмешчаны ўрывак з гэтага раману. Падаючы яго, Гілевіч ад сябе зазначыў: „Назваў яго (значыцца, раман) 'Родныя дзеці'. Дзеці бацькоў, дзеці Бацькаўшчыны, дзеці Зямлі — вось тры ідэйна-тэматычныя кругі, у сфэры якіх — гэроі, падзеі, праблемы і ўсё іншае . . ."

Дык хто гэта тыя „дзеці Бацькаўшчыны" ў Гілевіча — дзеці Беларусі ці дзеці Савецкага Саюзу? З вышэй прыведзенага азначэньня „бацькаўшчыны" сюды падыходзіць толькі тое, што сказана пад нумарам першым з двума прыкладамі: адным з Лужаніна й другім з Гурскага. У Лужанінавым прыкладзе „бацькаўшчына" — гэта выразна Савецкі Саюз. У Гурскага-ж цяжка зразумець, ці гэта — Беларусь, ці Савецкі Саюз. Гэта можна ўстанавіць адно ў кантэксьце цэлага твору, зь якога прыклад узяты. Але наўдачу, ці хто-небудзь з чытачоў Тлумачальнага слоўніка будзе ведаць дый памятаць той твор Гурскага. Такім парадкам, Гурскі падмацоўвае Лужаніна: „бацькаўшчына" — гэта Савецкі Саюз.

Маскоўская нацыянальная палітыка ў беларускай моваведзе, як бачым, выжыла ўжо „Беларусь" нат з паняцьця „бацькаўшчыны". Цяпер партыйнай цэнзуры засталося яшчэ адпаведна працэнзураваць Янку Купалу, які гэтае слова любіў ды пісаў, прыкладам, у вершы „Паўстань з народу нашага . . .":

Зьбяры ў вадну ўсю Беларусь
сям'ю,
Вазьмі зь яе прысягу і зарок,
Што не прадасьць сябе, сваю
зямлю . . .
Зняць путы **бацькаўшчыне**
ўстань, Прарок . . .

Або ў Купалавым санэце пад заг. „Бацькаўшчына", напісаным у 1915 годзе, калі пра Савецкі Саюз, як пра бацькаўшчыну Беларусаў, ніхто йшчэ й ня думаў:

Так **Бацькаўшчыну** я здабыў сабе
бяз злосьці,
Узрос зь яе й чужых зь яе ня
ськівуў косьці,
Грудзьмі тулюсь к ёй, як да
матчыных грудзей.
I калі зьдзекуецца нада мною
хтосьці —
Над **Бацькаўшчынай** зьдзекуецца
ён маей,
Калі-ж над ёй — мяне тым
крыўдзіць найцяжэй.

Гэтак вось аўтары (цэнзары?) „Тлумачальнага слоўніка беларускай мовы", выкінуўшы з „бацькаўшчыны" той зьмест, які ў гэтае слова ўкладаў найвялікшы пясьняр Бацькаўшчыны, ды якім, як сынонімам Беларусі, карыстаюцца таксама на Беларусі сучасныя маладыя пасьлядоўнікі Янкі Купалы, „пакрыўдзілі найцяжэй" і іх і ўсіх Беларусаў, каму дарагое гэтае слова.

Пра гэта варта нагадаць у год купалаўскага стагадовага Юбілею. І ніколі не забывацца пра гэта.

**Аркадзь Будзіч**

## "ЯК ДУХ ЗМАГАНЬНЯ БЕЛАРУСІ"

**(ДА 100-Х УГОДКАЎ НАРАДЖЭНЬНЯ ІВАНА ЛУЦКЕВІЧА)**

**(Гл. пачатак у № 294-295 і 296)**

Па Антону, і ўжо дзеючы да пэўнай ступені ў ваднэй асобе зь ім, Іван Луцкевіч яшчэ ў гадох гімназіяльнага вучэньня знайшоў і прыцягнуў некаторых калегаў-гімназістых, сярод якіх трэба назваць Адварда Будзьку, што стаўся й застаўся да канца сваіх дзён беларускім нацыянальна - грамадзкім дзеячом (спрабаваў свае сілы таксама і ў пісаньні вершаў, якія зрэдку зьяўляліся ў „Нашай Ніве" ды адзначаныя акадэмікам Карскім у томе III-ім, вып. 3-ім ягоных „Беларусаў", бб. 381-382).

У вапошніх гадох гімназіяльнае навукі, ужо ў Менску, братамі Луцкевічамі быў навязаны кантакт з паэтам Карусём Каганцом (Казімерам Кастравіцкім), які, як успамінаў пасьля Антон Луцкевіч, „да нас, гімназістаў, прыходзіў . . . чытаў нам свае беларускія вершы, якія пачаў пісаць у пачатку 90-ых гадоў, ды гутарылі мы зь ім аб беларускай справе" (Ант. Луцкевіч, „За дваццаць гадоў", Вільня, 1928, б. 7).

У Пецербургу, куды падаліся па вышэйшую асьвету браты, адразу-ж быў знойдзены Вацлаў Іваноўскі, як успамінае Антон Луцкевіч (тамсама, б. 8): „У першыя-ж дні пасьля прыезду ў сталіцу мы бліжэй зыйшліся з Вацлавам Іваноўскім, тады студэнтам тэхналягічнага інстытуту, родам зь Лідчыны, і стварылі цесную, добра 'сьпетую' тройку, узяўшую на сябе ініцыятыву, а пасьля й кіраўніцтва ўсёй працай сярод беларускага студэнцтва".

Як удакладняў Вацлаў Іваноўскі ў гутарках зь ім у часе апошняе вайны ў Менску, першым і галоўным у гэтай „тройцы" быў Іван Луцкевіч. Празь Іваноўскага („пад уплывам Вацюка Іваноўскага", як піша Ант. Луцкевіч, тамсама, б. 11) былі знойдзеныя й прыцягнутыя „ў Вільні . . . Алёізія Пашкевічанка, пасьля па мужу Кейрысовая, мянюшка 'Цётка' (спад Васілішак, у Лідчыне), Фэлікс Стэцкевіч, мянюшка 'Аганёк' (са Шчучына, у Лідчыне), Аляксандар Бурбіс, мянюшка 'Піліп', студэнты Умястоўскія, група вучняў віленскае праваслаўнае духоўнае сэмінарыі з Аўгенам Хлябцэвічам, мянюшка 'Халімон спад пушчы' (зь в. Клёнікі, Бельскага пав.), на чале".

Падобна былі знойдзеныя й прыцягнутыя шэраг асобаў у Менску, сярод іх — Аляксандар Уласаў спад Радашкавічаў (тады студэнт Рыскае палітэхнікі, з часам стаўся рэдактарам-выдаўцом „Нашае Нівы", знайшоў і прыцягнуў, сваім парадкам, Якуба Коласа).

У Пецярбургу таксама быў замацаваны кантакт з аматарам беларускае рукапіснае літаратуры, праф. Браніславам Эпімахам-Шыпілам, які пад уплывам гэтага кантакту із, сказаць-бы, Іваноўскага-Луцкевіцкаю ініцыятыўна-кіраўнічаю „тройкаю" актывізаваўся, асабліва ў галіне выдавецкае працы (праз Эпімаха-Шыпілу быў прыцягнуты й Янка Купала, знойдзены ў Менску й скантактаваны зь ім Уладзімерам Самойлам).

У Пецярбургу-ж быў знойдзены й прыцягнуты да беларускае справы Вацлаў Ластоўскі, які з часам стаўся сакратаром рэдакцыі „Нашае Нівы", а ў 1912-13 г.г. ейным фактычным рэдактарам, у 1916-17 г.г. рэдактарам газэты „Гоман", простага працягу „Нашае Нівы".

Вацлаў Ластоўскі меў фармальна толькі пачаткавую асьвету, але быў вельмі здольны, проста, можна сказаць, геніяльны самавук. Знайшоўшы й адразу ацаніўшы яго, Іван Луцкевіч адразу-ж пачаў рабіць зь яго як-бы сваю копію. Сам зацікаўлены ў гісторыі, у старасьветчыне наагул, сам „антыквар і археоляг", паводля Купалавае эпіграмы, Іван Луцкевіч зацікавіў усім гэтым і Ластоўскага, які пад ягоным уплывам і кіраўніцтвам пачаў пісаць першы ў нас нарыс нашае гісторыі з нацыянальнага гледзішча — сваю „Кароткую гісторыю Беларусі" (друкавалася ў „Нашай Ніве" працягамі ў 1909 г., у 1910-ым выйшла асобнаю кніжкаю) ды пакрысе ставацца таксама „і антыкварам, і археолягам", а нат і больш хіба за самога Івана Луцкевіча „і бібліёлягам і філёлягам". І можна сказаць, што тая Купалава эпіграма на Івана Луцкевіча пасуе й да Ластоўскага ў дачыненьні да ўсіх ейных „і" ня ў меншай меры.

Аднак, было ў Ластоўскага і яшчэ адно „і", якога ня было ў Івана Луцкевіча: нябудзённы пісьменьніцкі талент. Ягоную мастацкую прозу, што зьяўлялася ў „Нашай Ніве", высака ацаніў сваім часам найстражэйшы й найкампэтэнтнейшы крытык нашаніўства Максім Багдановіч.

У сваім аглядзе беларускае літаратуры 1910 году „Глыбы й слаі", ацэньваючы беларускую мастацкую прозу таго году, Максім Багдановіч адзначыў, што „адзін толькі Власт" (псэўданім Вацлава Ластоўскага, скаладзены зь ініцыялу ягонага імя й першых літараў прозьвішча — А.А.) „здолеў даць у сваіх абразкох нешта цэннае", і ў наступным аглядзе „За тры гады (1911-1913 г.г.)" пісаў: „Власт надрукаваў усяго 3-4 рэчы, але кажную можна ўзяць за прыклад, як трэба пісаць", а ў нарысе „Беларускае адраджэньне" („Белорусское возрождение", 1914 г.) даў гэткую агульную характарыстыку Ластоўскага-Власта (даецца ў перакладзе з расейскае): „Ён не пладавіты, але ягоныя нявельмі лічныя апавяданьні заўсёды поўныя пачуцьця глыбокага й хвалюючага, думкі трывожнае й значэннае, заўсёды адзначіліся рэдкаснай разнастайнасьцяй тэмаў і стыляў" (усе зацытаваныя тут Багдановічавы словы можна знайсьці ў томе II-ім ягоных „Твораў" выданьня Інстытуту Беларускае Культуры, Менск, 1928, на бб. 11, 34, 142, але ў томе II-ім апошняга савецкага акадэмічнага выданьня Багдановічавага „Збору твораў" 1968 г., на адпаведных бб. 102, 132, 239 словаў гэтых ужо няма — пропускі іх адно пазначаныя шматкроп'ямі ў вайстрарогіх дужках — Ластоўскі „неасоба" для савецкага друку й для савецкіх „акадэмікаў", хоць, праўда, у Беларускай Савецкай Энцыкляпэдыі, у 6-м томе 1972 году выданьня, даведка пра яго зьмешчаная).

І калі ў Купалаву эпіграму на Івана Луцкевіча можна было-б дадаць пад яшчэ адным „і" нешта пра пісьменьніцтва, дык яна да Ластоўскага пасавала-б яшчэ больш, бо запраўды „а лепш-бы так было зусім, каб быў чым-колечы адным"

**(Працяг на 2-ой бач.)**

# ПАМЯЦІ БІСКУПА Ч. СІПОВІЧА

У сыботу, 6-га лютага, 1982 г. у каталіцкім касьцеле „Багародзіцы зь Люрду ў Тароньце (Канада) адбылася жалобная імша па сьв. пам. Біскупу Чаславу Сіповічу. Апрача Беларусаў, якія, не зважаючы на няспрыяльнае лютаўскае надвор'е, зьехаліся з Таронта, ягоных ваколіцаў, Ашавы, Бэры й Атавы, у касьцеле было поўна й Канадыйцаў. Пробашч а. Джонсан абвесьціў, што жалобную імшу за душу Біскупа Часлава Сіповіча, які памёр у канцы мінулага году ў Ангельшчыне, адправіць Яго Дастойнасьць Біскуп Алёйзіюс Амброзік з Таронта.

У сваёй глыбока філязафічнай казані Біскуп Амброзік гаварыў пра Беларусь і ейнае геапалітычнае палажэньне, пра жыцьцё, пастырскую й нацыянальна-культурную дзейнасьць сьв. пам. Біскупа Сіповіча на чужыне. „Ён працаваў не для таго краю, дзе жыў, але барджэй для сваё далёкае бацькаўшчыны Беларусі" — сказаў пра Нябожчыка Біскуп Амброзік. І далей: „Людзі, што дзеля няспрыяльных абставінаў мусяць пакідаць свой край і жыць на чужыне, але ідэйна працуюць для дабра свайго краю, мусяць быць асабліва моцныя духам, гераічныя, бо-ж яны ня маюць ані маральнага падтрыманьня, ані зразуменьня, ані прызнаньня ад навакольля у якім жывуць". Прыклады гэткіх людзей ён даў з навейшай гісторыі й Старога Запавету. Людзі гэткія звычайна ня маюць нашага прызнаньня, але маюць яго ў Бога. І вынікі працы такіх людзей важкія й трывалыя. Нічога пазытыўнага ня гіне, хоць мы можам пра яго й забыцца...

Па імшы Беларусы перайшлі ў прасторную й сьветлую залю Лынч, каб успамінамі й добрым словам аддаць пашану памяці вялікага й дарагога нам Чалавека. Др. Вінцэнт Жук-Грышкевіч, ініцыятар і арганізатар жалобнай службы Божай, расказаў пра жыцьцё, дзейнасьць і заслугі сьв. пам. Уладыкі Часлава Сіповіча. Свой расказ др. В. Жук-Грышкевіч закончыў славамі: „Праз усё сваё жыцьцё Біскуп Часлаў Сіповіч адданы быў справе служэньня Богу й беларускаму народу, якім пасьвяціў увесь свой час, усе свае сілы, усё сваё жыцьцё. У ягонай асобе мы страцілі волата беларускага вызвольнага руху".

**Раіса Жук-Грышкевіч**

# „ВЯРНІЦЕ ДНЯПРУ ЛАСТАВАК"

**(Заканчэньне з 4-ай бач.)**

ці плян, які быў зацьверджаны у 1969 годзе, паддаўся шэрагу зьменаў — *быў дапоўнены, папраўлены*. Пра памыснае выкананьне пляну у артыкуле Стральцова не зазначана, затое шмат пішацца пра новы чацьверты генэральны плян, праект якога ўжо разгледжаны і які разьлічаны на гады, Прапануе ён запраўдныя цуды. З задаваленьнем пералічвае іх галоўны архітэктар Юры Іўжанка: „*Тут уся наша пэрспэктыва!* Вось Дубравенка — зялёны пояс... Вось Паднікольле — тут будзе цэнтральны парк... А вось задняпроўскі зялёны масыў, зона адпачынку хімікаў...".

Але за гэтай фантазіяй архітэктара сьпяшаецца аўтар с сваім цьвярозым словам:

„Паднікольле, нават сама неўпарадкаваная паднікольская лукавіна — неацэнны дар Дняпра гораду. Яна выгінаецца і ахоплівае вялікую тэрыторыю. Раней тут быў багаты раўнюткі поплаў.

„Цяпер трава далёка ня тая, дый прызначэньне Паднікольля іншае. Яно — зона адпачынку. Мяккія пяшчаныя пляжы. Адно што тэрыторыя амаль зусім не абсталяваная, не ўпарадкаваная. Ды вось суцяшальная вестка: **Паднікольле стане галоўным паркам Магілёва** (падчыркнута намі — З.С.).

„Чакайце, а ці ня вабілі магілёўчан такой абяцанкай у мінулым? Даўнавата гэта было — ці ня два дзесяткі гадоў назад, але тут ужо рзьвешваліся на слупох рэклямныя шыльды, якія абяцалі, што зашумяць Паднікольле густымі шатамі, парадуе ў сьпякоту цяністымі алеямі. Пасьля панаўтыкалі дзе-нідзе гонкіх дубцоў. Зараз ад тых дубцоў нават пянькоў не засталося."

Аўтар вядзе далей пералік аб'ектаў з пляну для Паднікольля:

„Асобна — дзіцячая зона на 60 гэктарах, тут і гідрапарк, і востраў з казачным гарадком, і фантан-каскад, водная спартыўная база зь вясьлярным каналам, шыкоўная набярэжная.

Разказваю пра ўсё гэта, — кажа ён, — а самога гняце думка — ці ня здарыцца, што гідрапарк перасохне, вясьлярны канал застанецца без вады, а гранітна-чыгунная набярэжная апынецца з абодвух бакоў на сухім беразе? Калі ня ў блізкай, то не ў такой ужо і далёкай будучыні. *Няма для гэтага падстаў?* Паглядзім."

**З. Ст.**

# ДА НАШЫХ ЧЫТАЧОЎ

Паважаныя й Дарагія! Гэтак, як Вам прыемна (і карысна) даставаць газэту (даруйце, калі яна позьніцца часамі), гэтак-жа й нам прыемна (і карысна) даставаць ад Вас лісты, чуць Вашыя водгукі й прапановы, карыстаць з Вашых думак. Вашае слова часта сьціраванае беспасярэдня да „Беларуса" з зычэньнямі яму дужэць ды разьвівацца. Дзякуем за гэтыя зычэньні, бо ўзапраўды газэта й ёсьць тым сымбалем жывучасьці ды нашае лучнасьці і міжсобку і з краем нашым.

Усе Вашыя і даўжэйшыя лісты, і лісточкі, і карталюшкі чытаюцца й перачытваюцца. Цірaз плянавала адказаць на ўсе Вашыя пытаньні лістоўна й асабіста кажнаму, але, нажаль, гэта ня лёгка выканаць. Дык вось адказваю гэткім шляхам.

Чамусьці так склалася, што пішуць да нас больш чытачы далёкія. Гэта, бадай, зразумела, калі ўлічыць кошт тэлефонных размоваў. Але і ў тэлефонных гутарках і ў лістох выказваюцца тыя самыя зацікаўленьні й турботы: чытачы дапамагаюць, чым могуць, дзеляцца думкамі, падказваюць новыя праекты. Гэткае стаўленьне нас моцна падтрымоўвае.

Прыкладам, з Сыднэю сп. А. К. піша: „Мы тут будзем адстойваць 'Беларуса' да пераможнага канца. Праўда, патрабуе дапамогі й лёнданская Беларуская Бібліятэка. Але гэта — дзьве рэчы важныя для нас і мы іх не пакінем!" І канчаецца ліст пажаданьнем: „Дай Вам, Божа, здароўя й вытрываласьці, каб змаглі весьці далей працу майго настаўніка".

А сп-ня А. Каранеўская, перасылаючы сьпіс ахвяраў на „Беларуса", залучыла й сьпіс прозьвішчаў людзей, што склалі ахвяры — замiж кветак на сьвежую магілу сьв. пам. Біскупа Сіповіча — на Беларускую Бібліятэку ў Лёндане. На сьпісе — 25 асобаў, што ахвяравалі 234 аўстралійскія даляры. Суродзічы ў Сыднэі ўзапраўды прыслухаліся й адгукнуліся на заклік а. Надсона: „дае двойчы той, хто дае хутка".

А як-жа мы, ньюёркаўцы? Слова цяпер за намі! Патрэбныя нам, як хлеб штадзённы і газэта „Беларус" і нашая Бібліятэка ў Лёндане, бо яны — сымбаль на чужыне няўміручасьці народу нашага.

Пішуць да нас часта й тыя нашыя прыяцелі, што руплцца пра будучыню газэты, ды вітаюць кажны нумар (нават спозьнены).

„Шчыра дзякую за газэту. Мы цешымся, што выходзіць і жадаем усім працаўнікам-працаўніцам здароўя і посьпеху далей праводзіць такую вялікую працу... Мы будзем старацца ўсімі сіламі памагаць", абяцае сп-ня Ю. Найдзюк.

З Польшчы рэдка цяпер прыходзяць лісты, але ўсё-ж прыходзяць.

Ліст высланы з Варшавы 7-га сьнежня 1981 г. трапіў у Нью Ёрк пад канец студзеня 1982 г. Прыемна была пабачыць на канвэрце штэмпель: **„НЕ цэнзуравана"**.

„Вялікі Вам дзякуй за прысланьне 'Беларуса' (№ 283-284), якога я атрымаў у палове лютага 1981 г. Я пераехаў на новую кватэру і пошта даволі доўга мяне шукала.

„Чым магу Вам адудзячыцца, Можа Вам патрэбна якая беларуская кніжка?

„Быў-бы вельмі ўдзячны, калі-б Вы маглі прыслаць мне адрыс сп-ні Ст., жонкі памерлага ўжо Я. Ст.. Мы тут хочам арганізаваць прысьвечаныя яму ўспаміны. Даруйце, што доўга не напісаў, але мне нездаровіцца (мне-ж 76 год). Усяго добрага — Балеслаў Манкевіч."

І на заканчэньне ліст таксама ад старэйшага і хворага суродзіча, які перажывае нашыя праблемы.

„Добы дзень, паважаныя Беларусы з рэдакцыі газэты. Высылаю на газэту 'Беларус' 20 канадыйскіх дал.

„З пашанаю да вас, жадаемо ўсім Беларусам, што шчыра працуюць на беларускай ніве, каб падумалі:

„Шкода, што ўжо забыліся пра зьдзекі й мукі, калі адны былі ў Сібіры, а другія сядзелі у Дахаве, у Асьвеньціме — а тут, на волі, разрываюць беларускую царкву й рэлігію.

„Шкада, што забылі людзі пра зьдзекі ад чужынцаў, таму й пішу гэтых пару слоў. Я ўжо старэйшы і мала бачу, але хацеў-бы, каб Айцец Бог прамыў розум людзям, каб пакінулі злыя дарогі, а пайшлі па добрых! З пашанаю да ўсіх — Мікола Пракопчык."

Гэтулькі на гэты раз інфармацыі пра дачыненьні чытачоў да газэты „Беларус" і газэты да чытачоў.

Мы, працаўнікі рэдакцыі, удзячныя Вам, дарагія чытачы, за лісты, допісы ў газэту, газэтныя выразкі ды іншыя матар'ялы. Усё гэта — вялікая дапамога, што ў ладнай меры аблягчае нашую працу.

Да наступнага разу.

**Працаўніца Рэдкалегіі „Беларуса"**

**ЧАКАЕМ І АД ВАС АХВЯРЫ НА ВЫДАВЕЦКІ ФОНД „Б Е Л А Р У С А"**

**ВІТАЕМ**

**Д-ра Алу Орсу-Рамана** з падвышэньнем на прафэсійнай лесьвіцы і здабыцьцём тытулу „Ассошыет Прафэсар" на Гарадзкім Унівэрсытэце гор. Нью Ёрку.

**Сп-ню Зору Кінель** з падвышэньнем на новае становішча заступніка шэфа Славянскага Аддзелу Ньюёркаўскае Публічнае Бібліятэкі.

## ДРУГІ ЛІСТ АРХІЕПІСКАПА МІКАЛАЯ ДА МІТРАПАЛІТА АНДРЭЯ

14 студзеня 1982 г. Архіепіскап Беларускае Аўтакефальнае Праваслаўнае Царквы Уладыка Мікалай выслаў Мітрапаліту БАПЦ Андрэю гэткі ліст:

Найпачасьнейшы Мітрапаліт Андрэй!

Дарагі Уладыка. Сьвецкія суды ў царкве да дабра ня прыводзяць. І Вы гэта добра ведаеце. Для мяне ёсьць незразумелым, чаго Вы хочаце дабіцца гэтым праз сьвецкі суд. Бо гэтую справу можна палагодзіць унутрана.

Да мяне дайшла вестка, што сьвецкі суд у Гайленд Парку, які быў назначаны на 20 студзеня 1982 г., адложаны. Уладыка,зрабеце ўсё, каб сьвецкага суда ня было.

Як толькі атрымаю ад Вас ліста, у якім Вы напішаце, што Вы адклікаеце сьвецкі суд, а справа будзе перададзеная ў царкоўны суд, і больш ніякіх вымогаў, я адразу выдам асьветчаньне, што парахвіі ў Нью Ёрку, Гайленд Парку, Кліўлендзе й Дэтройце вяртаюцца пад Вашу юрысдыкцыю, як кіраўнічага епархіяй.

Ня дай Божа, калі сьвецкі суд адбудзецца, незалежна ад таго, хто выйграе, БАПЦ падзеліцца. А калі фармальна падзеліцца, тады будзе амаль немагчымым зьяднаць.

Зрабеце ўсё, пакуль яшчэ магчыма ўратаваць БАПЦ.

Прашу Вашых сьвяціцельскіх малітваў,

астаюся

✠ Мікалай

14 студзеня, 1982 г.
Таронта, Канада

**Чытайце, выпісвайце, папірайце газэту Беларусаў у Вольным Сьвеце „Б Е Л А Р У С"**

## СЬВ. ПАМ. ІВАН МУХА

**нар. 3 сьнежня 1912 г. у мястэчку Ахромевічы на Чарнігаўшчыне. Памёр 3 лютага 1982 г. у Нью Ёрку, пакінуўшы ў глыбокім смтуку жонку Клаву й сына Ігара, аб чым з сумам паведамляюць ды сям'і Нябожчыка глыбокае спачуваньне выказваюць былыя ягоныя вучні й сябры-настаўнікі Гімназіі імя Янкі Купалы ў Міхэльсдорфе (Заходняя Нямеччына).**



**ДА НАШЫХ СТАРЭЙШЫХ ЧЫТАЧОЎ**

У шмат каго з Вас, паважаныя Чытачы, ёсьць дарослыя дзеці, пляменьнікі й пляменьніцы, якім ангельская мова сталася першай мовай. Гэта-ж з разьлікам на іх была ўведзеная ў нашую газэту англамоўная балона „Беларуса". Вашым абавязкам, як Беларусаў і як прыхільнікаў газэты — падбаць, каб Вашыя сыны й дочкі ды іншыя маладыя родзічы падпісаліся на „Беларуса" й чыталі прынамся англамоўную старонку газэты. Шмат хто зь іх зарабляе даволі, каб магчы выпісаць сабе газэту. А калі не, дык можа-б Вы маглі для іх падпісацца, калі хто зь іх жыве асобна. Гэтым Вы зробіце паслугу і выдавецтву „Беларуса" і сабе, бо, чытаючы „Беларуса", Вашыя дзеці будуць лепш Вас разумець.

**Рэдакцыя**

# НА ВЫДАВЕЦКІ ФОНД "БЕЛАРУСА"

За сьвяточныя прывітаньні склалі ахвяры наступныя асобы:

| | | |
|---|---|---|
| 1. | Др. Я. Запруднік | $ 24.00 |
| 2. | Н. Жызьнеўскі | 20.00 |
| 3. | Я. Каханоўская | 10.00 |
| 4. | Ю. Андрусышына | 10.00 |
| 5. | Ю. Найдзюк | 10.00 |
| 6. | Н. Кушаль | 10.00 |
| 7. | З. Станкевіч | 10.00 |
| 8. | Л. Норык | 10.00 |
| 9. | Я. Чарнэцкі | 10.00 |
| 10. | К. Акула | 10.00 |
| 11. | Ж. Корчык | 10.00 |
| 12. | Я. Канарчук | 10.00 |
| 13. | А. Шукелайць | 10.00 |
| 14. | В. Кажан | 10.00 |
| 15. | Др. Б. Грабінскі | 10.00 |
| 16. | Др. В Рамук | 10.00 |

**Разам: $ 184.00**

Ахвяры за сьвяточныя прывітаньні зь Нью Джэрзі палічаныя ў сьпісе, перасланым сп. Б. Даніловічам, і ў сьпісе, перасланым сп. М. Нікана́м з Аўстраліі, разам зь іншымі ахвярамі.

**У студзені 1981 г. паступілі ў касу газэты падпіска й ахвяры:**

**ЗША**

**Прыслана беспасярэдня ў Рэдакцыю:**

| | | |
|---|---|---|
| 1. | К. Шэлест | $ 50.00 |
| 2. | П. Трысмакоў (з продажу газэты) | 28.63 |
| 3. | А. Савёнак | 25.00 |
| 4. | С. Антонік | 24.00 |
| 5. | П. Міpановіч | 20.00 |
| 6. | К. Кажура | 20.00 |
| 7. | Г. П. | 20.00 |
| 8. | В. Р. | 20.00 |
| 9. | Я. Каханоўская | 15.00 |
| 10. | Т. Е. Пятроўскі | 15.00 |
| 11. | Э. Пітушка | 15.00 |
| 12. | Я. Крэсла | 12.00 |
| 13. | Ю. Рапэцкі | 12.00 |
| 14. | Ю. Андрусышына | 12.00 |
| 15. | Арх. Я. Строк | 10.00 |
| 16. | В. Кажан | 10.00 |
| 17. | Ананімна | 12.00 |
| 18. | Я. Юхнавец | 5.00 |
| 19. | Р. Галяк | 5.00 |

**Разам: $ 330.63**

**Праз прадстаўніка газэты „Беларус" у Нью Джэрзі сп. Б. Даніловіча:**

| | | |
|---|---|---|
| 1. | Я. Сокал | $ 30.00 |
| 2. | І. Франкэ | 20.00 |
| 3. | В. Балтрушэвіч | 20.00 |
| 4. | Я. Панцэвіч | 20.00 |
| 5. | А. Койка | 15.00 |
| 6. | М. Касьцюк | 12.00 |
| 7. | А. Сільвановіч | 10.00 |
| 8. | Б. Даніловіч | 10.00 |
| 9. | В. Стома | 10.00 |
| 10. | А. Балкоўскі | 10.00 |
| 11. | А. Дубяга | 10.00 |
| 12. | П. Кажура | 10.00 |
| 13. | Я. Азарка | 10.00 |
| 14. | Ю. Азарка | 10.00 |
| 15. | А. Субота | 10.00 |
| 16. | А. Непеін | 10.00 |
| 17. | а. Аляксандар | 10.00 |
| 18. | А. Стагановіч | 10.00 |
| 19. | Ю. Стагановіч | 10.00 |

**Разам: $ 247.00**

**КАНАДА**

| | | |
|---|---|---|
| 1. | Т. С. | $ 12.00 |
| 2. | А. Петроў | 10.00 |

**Разам: 22.00**

**АНГЕЛЬШЧЫНА**

**Перасланa сп-ром М. Баяроўскім: Нікана з Мэльбурну:**

| | | |
|---|---|---|
| 1. | М. Баяроўскі | 30.00 анг. ф. |
| 2. | Я. Міхальчык | 10.00 |
| 3. | В. Карніловіч | 5.00 |
| 4. | Р. Мятла | 5.00 |

**Разам:** 50.00 анг. ф.
У ам. дал. **93.25**

**АЎСТРАЛІЯ**

**Праз прадстаўніка газэты сп. М. Нікана з Мэлюбурну:**

| | | |
|---|---|---|
| 1. | Я. Стасевіч | 35.00 |
| 2. | А. Груша | 30.00 |
| 3. | М. Скабей | 25.00 |
| 4. | Я. Груша | 25.00 |
| 5. | М. Калодка | 25.00 |
| 6. | М. Нікан | 25.00 |
| 7. | Т. Корбут | 20.00 |
| 8. | М. Еўневіч | 20.00 |
| 9. | М. Максымаў | 20.00 |
| 10. | З. Кадняк | 20.00 |
| 11. | М. Кулага | 20.00 |
| 12. | А. Грынко | 20.00 |
| 13. | А. Кукель | 20.00 |
| 14. | У. Сідлярэвіч | 20.00 |
| 15. | П. Гуз | 20.00 |
| 16. | М. Субач | 15.00 |
| 17. | М. Шэко | 15.00 |
| 18. | Л. Яцкевіч | 15.00 |

**Разам:** 380.00 аўстрал. дал.
У ам. дал. **427.16**

**Усяго разам за студзень $ 1,304.04**

**Усім ахвярадаўцам і падпішчыкам шчырае дзякуй!**

# BIEŁARUS

**Monthly. Published** by the Byelorussian-American Association, Inc., P.O. Box 178, Jamaica, N.Y. 11431. Price per copy: $1.25, subscription $12.00 per year.


## KUPALA'S "UNNEEDED APPENDAGE"

This year we celebrate the centenary of the birth of Janka Kupała and Jakub Kołas. The literary heritage of these two giants will be widely discussed and extensively analyzed for its impact on the course of the Byelorussian history as well as its relevance to our days. There is, however, a fundamental question of what actually belongs to them in their artistic patrimony. The problem is hat a considerable part of it is stained by the Stalin personality cult forced upon them by the might and terror of the Soviet state.

Here is how the problem of sorting out Kupała's and Kołas's works from the accumulation of panegyrics to Stalin was put by Piatruś Brouka, chairman of the Byelorussian Writers' Union, in 1962 at the Union's plenum on January 31, 1962:

"The Stalin personality cult slowed down, fettered, and limited the artists' thoughts and, of course, impoverished their works of art. The great losses suffered by Soviet literature and the arts are generally known. Our Byelorussian literature lost a great deal, too. At a time when Soviet Byelorussian belle lettres were flourishing, during a period of their unusual growth, the cult of personality, with severity and harshness broke off and mutilated the branches of this blossoming tree, and numerous active workers of literature — writers and artists — had to suffer in ghastly conditions for many years and many of them lost their lives... We all have contributed to that in a way. Even such wise and staunch men as our teachers, Janka Kupała and Jakub Kołas, paid respect in many of their works to the cult of personality. Jakub Kołas, luckily, while he was still alive was able to cleanse many of his best works of this slime, but Kupała was not able to perform such a task. This unneeded appendage hangs on a considerable part of his works done in the Soviet period. And now we have to think of what should be done. I feel that at the end of those works where the words, "great Stalin," were simply attached to assure their publication, those words must be removed, because the works themselves are good and highly artistic and they have nothing to do with the cult of personality with the exception of that specific addendum. Janka Kupała's attitude toward the cult is well known to all of us and we are quite convinced that were he alive today he would have gladly done this himself." (**Litaratura i Mastactva**, Feb. 2, 1962)

## KUPALA AND KOLAS: "UNPARALLELED ROLE"

This year, with wide preparations for the centenary of the birth of Janka Kupała and Jakub Kołas going on in Soviet Byelorussia and in the Byelorussian diaspora, we would like to recall an incisive appraisal of the role of both classics in the history of the Byelorussian nation given by the British scholar, Walter Kolarz, in his much acclaimed book, **Russia and Her Colonies** (London, 1952, p. 133):

The role which Kołas and Kupała played in Soviet Belorussia is unparalleled throughout the USSR. No Belorussian Bolshevik ever assumed the role of a national leader of the Belorussians — the leadership was in the hands of Kołas and Kupała. Instead of "removing" the two poets, the Soviet regime tried to direct their poetic creation into the "right channels" and to use them for Communist propaganda. Kołas and Kupała were often criticized, at times they seem to have been in disgrace but they never disappeared, as did many excellent writers and poets of almost all the major peoples of the Soviet Union.

The purge of Kołas and Kupała would have been tantamount to the bankruptcy of Soviet cultural policy in the BSSR, since the two were not only outstanding literary figures but actually cultural "awakeners" of their people. Belorussia could do without its "national democrat" historians and folklorists, it could do without its leading Communist politicians. Kołas and Kupała, however, were indispensable. Their case showed that there are limits even to purges in the Soviet Union. The purge in Belorussia could not be carried so far as to endanger the cultural foundations of the third largest people of the Soviet Union. This is why Kołas and Kupała were spared despite all their "sins" and deviations."

Another leading specialist on Soviet literatures, Professor Herbert Marshall, noted in recent years: "Kupała's poetry has unusually vigorous and musical rhythms, rich and varied forms, and vivid imagery pervaded by spiritual feeling. Kupała's influence on the Byelorussian people was immense. **The patriotic poetry of Kupała has not lost its national revolutionary influence even today.**"

## DESTRUCTION OF NATURE

Byelorussian Polessie is mentioned in the new book, **The Destruction of Nature in the Soviet Union**, which is a translation from the Russian samizdat original published by Possev in 1978. The American publisher is M. E. York. The book was written by a pseudonymous Soviet government official, Boris Komarov, who continues to live in the USSR and holds a position in a Soviet ministry.

**The Destruction of Nature in the Soviet Union**, with a foreword by Harvard Professor Marshall I. Goldman, has been hailed as "a landmark in our understanding of environmental problems in the USSR" and as "a welcome antidote to official Soviet publications."

Boris Komarov, writing about the ecologcal disaster in the Soviet Union, cites an example from Byelorussia (pp. 49-50 of the English translation):

"The paradox of Byelorussian Polessie is its extraordinary mosaic of soils: sandy, peat, gley, etc. Often drainage had the effect that on hills sandy soils dried out but were turned into blown sand. Peat soils played a different trick on the reclaimers. After reclamation everything dried out on these soils, although the ground water was just below the roots. For wheat or beets to grow on this former swampland they had to be watered, and not simply watered but sprinkled. In the last ten years the swampy Polessie has learned that there are such things as dust storms...

"Thus it is now conceded even officially that despite the considerable capital investment, reclamation yields a variable increment to production. In the official lexicon variable means little or nothing."

"Drainage added thousands of new hectares but made old farmland worthless. Then they began to quickly plant pines on the old and newly draining land. If it wasn't farmland, let it be forest! But the forest also soon withered. As Kiselev established, pines require acid soils, which are formed where water is stagnant. The drainage canals increased flow, and within five to seven years the frail saplings fell prey to insects or viral diseases. Then the ailing new plantings began to infect old forests..."

"The main harm could have been avoided, writes Kiselev, if the former swamps had been turned into meadow rather than plow land. The well-developed livestock industry of Lithuania, Estonia, and Latvia relied on meadows and pastures of exactly this sort. But in Byelorussia the plan targets stipulated arable land, and that was that."

Boris Komarov notes further in his book that "the most important projects are made in Moscow and Leningrad and seeking the concurrance of local legislation is not included in the duties of the project makers" (pp. 95-96 of the Russian original).

In contemporary Byelorussian Soviet literature, in all three genres of poetry, prose, and drama, ecological themes have been increasingly gaining significance and generally support Komarov's allegations. Here is an example taken from a novel by Viktar Kažko, **Nierus** (The Primordial), published in 1981 in issues of **Połymia.**

"We the foresters would like to find out from hydrogeologists something about regulating the level of ground waters. We have trouble with forests. Every year we lose six hundred thousand cubic meters of accretion of lumber. You hydrogeologists claim that the level of the ground water drops within the distance of seven kilometers from the reclaimed lands, but according to our observation it occurs within the distance of twenty kilometers.

"Who has observed it?" — said Šachraj (a local official — Ed.), speaking to the foresters. — "One should not panic and exaggerate. The reclamation project has its scientists, too. I'll order them tomorrow to take up this issue and to prove to you there is no such thing. Any questions?!"

"The proving must be done not to us, Aleh Viktaravič, but to the forest. We are human beings, we may be convinced by your proofs. Our forest, however, when the level of the ground water falls only thirty centimeters will fobble. It will, in spite of all your proofs." (**Połymia**, 1981, No. 6, p. 15)

In the October 1981 issue of **Połymia** (No. 10) a play by Aleś Pietraškievič was published. In "The Salt," the author, with biting sarcasm, takes to task the plunderers of nature whose ranks reach into high levels of the government and industrial establishment. "The Salt" (where incidently, the action takes place once again in Polessie) has been accepted by one of Byelorussia's theaters for staging and was also published in Russian translation by the Moscow monthly **Teatr**, presumably for wider dissemination.

**J. Z.**

## THE KUPALA-KOLAS CENTENNIAL

**(The third in a series of articles)**

**NAŠA NIVA**

Last year, the Byelorussians in the West observed the 75th anniversary of a newspaper that was pivotal in the development of the Byelorussian national movement and in the growth of literature. Artistic creations of both Janka Kupała and Jakub Kołas were intimately connected with the weekly newspaper, **Naša Niva** (Our Soil), which began appearing in 1906.

The year 1906 was very important in the history of Byelorussia for the reason that two legal Byelorussian newspapers appeared in that year in Vilnia. Finally, the prohibition of the Byelorussian language was lifted as a result of the 1905 revolutionary upheaval in the Russian empire.

The first newspaper, **Naša Dola** (Our Fate), began publication in September of 1906. However, after only six issues its publisher was taken to court and the newspaper was barred from appearing because it reflected Byelorussian national and revolutionary ideas which were viewed by the Russian authorities as subversive.

While the sixth issue of **Naša Dola** was being printed, another weekly — **Naša Niva** — was launched, which espoused a less radical political course in order to survive the censor's surveillance. This paper continued its publication uninterruptedly until 1915 when it ceased because of the advancing German front.

Until 1912, **Naša Niva** was printed in two parallel editions: One in Cyrillic and the other in Latin script. After 1912, for reasons of economy only, the predominant Cyrillic script was used.

During its lifespan **Naša Niva** had three editors: S. Volski, Alaksandar Ułasau and Ivan Łucevič (real name of Janka Kupała).

The newspaper appeared at a very crucial period in the history of Byelorussia. Because the Russian occupation had lasted for over a century and was accompanied by policies of cultural suppression and russification, the very existence of the Byelorussian Nation was at stake. The dismal conditions in Byelorussia at the beginning of this century were dramatically described in a British journal, **The Anglo-Russian** (London, December 1904, p. 876):

"Such is the picture of a people living in Europe, in the gloomiest spot of dark Russia. Yet it was these very people who after the subjugation of the Ukraine by the Tartars, and the ruin of the northern Republics by the Muscovites continued from the 16th century uninterrupted intercourse with Western Europe, yea even transplanted the latter's Reform ideas into its own soil. To these people who for long had been a centre of culture for Russia, up to the time of the great Lomonosov, are now denied their most sacred rights. They are kept in the deepest darkness, possessing at present under the iron rule of the White Czars a smaller number of schools than they had in the 16th century. Indeed, the people of White Russia have been pushed back by the Muscovite regime to three centuries before the 16th century, so that to-day they exist in purely Middle Age conditions."

Knowing full well the difficult conditions of the country—first of all illiteracy and the lack of national awareness among the Byelorussians — **Naša Niva** began what seemed to be an insurmountable ascent. The tasks of the newspaper were formidable: to awaken the sense of national and political identity among the people and restore pride in their historical past, their language and culture, and to set the trends of future development for an autonomous national state.

It certainly was not an easy task. But the newspaper was greeted with enthusiasm. Within a short period of time **Naša Niva** became the central point of Byelorussian political, cultural, social, and literary life.

The newspaper attracted a massive following of those who were interested in Byelorussian revival. **Naša Niva** became also the literary parnassus for developing national literature. It served as a forum for discussing economic and political programs. It devoted much space to reports on matters of sociology, history, ethnography, linguistics, education, and agriculture. The weekly had a circulation of about five thousand.

The newspaper's readership, measured in thousands, had contributors from all over Byelorussia and some foreign countries. **Naša Niva**, in fact, was the first Byelorussian newspaper to have its own stringers in the United States, Canada, and South America.

In brief, one can say that all Byelorussian patriots were in one way or another grouped around or connected with **Naša Niva**. The newspaper became the genuine protagonist of the Byelorussian Idea and the years of its appearance are rightly called today the period of našaniustva (oursoilism).

**Naša Niva**, however, was far from being a chauvinistic publication. On the contrary, it was a democratic newspaper of breadth reflecting the real character of the Byelorussian people — their tolerance toward other minority groups in Byelorussia and perseverance in the struggle.

Along with theoretical discussions the newspaper encouraged implementation of the ideas expressed in its pages. It advocated very persistently organization of Byelorussian schools, establishment of Byelorussian institutions of higher learning, museums, theaters, etc.

In 1909 the newspaper initiated a series of articles on the history of Byelorussia and then published them in book form — Vlast (Vaclau Łastouski), **Karotkaja historyja Biełarusi**, Vilnia, 1910.

**Naša Niva** set in motion modern Byelorussian book publishing.

The newspaper, by the way, was the first to recognize the significance of emigration from Byelorussia and urged the establishment of Byelorussian organizations in the United States.

In summary, the accomplishments of the newspaper, among whose active contributors through its entire existence were Janka Kupała and Jakub Kołas, could be termed gigantic: the Byelorussian Nation was awakening, political parties were formed, schools opened, theaters established, and other newspapers and magazines launched.

The entire course of events was directed toward self-determination which culminated in the proclamation on March 25, 1918, of Byelorussia's Independence.

The Diamond Jubilee of **Naša Niva** celebrated in 1981 and this year's Kupała-Kołas Centennial have been occasions for us to express our deep appreciation of the sacrificial role played by the brothers, Ivan and Anton Łuckievič, the founders and primary movers of **Naša Niva.**

**Vitaut Kipel**

## THE OTHER HOLOCAUST

**The other Holocaust; many circles of Hell by Bohdan Wytwycky.**

Washington, D.C., The Novak Report, 1980. 95 p. charts, bibliography.

This small but timely and informative publication deals with the tragedies of 9 to 10 million persons who died under the Nazi regime in Eastern Europe: the Gypsies, the Poles, the Ukrainians, the Byelorussians, prisoners of war, and slave laborers.

The Byelorussian Holocaust is described on pp. 64-70. The author briefly mentions the political situation in Byelorussia after World War I when the Byelorussian territory was split among different countries. He gives a more detailed account of the events of World War II. The author says:

"Byelorussians who had been mistreated under Polish rule or terrorized under Soviet rule (or both) initially viewed the German conquest favorably. In a variety of places the German Army was greeted with the traditional symbols of welcome, bread and salt. Many felt that the reign of Stalinist terror was over. In addition, many members of the older generation recalled the decent treatment accorded them by the Germans during their occupation of Byelorussia during the First World War."

Soon, however, the true intentions of Germans toward the Byelorussians became clearly evident, or as the author informs:

"Berlin had decided before the invasion that Byelorussia, Lithuania, Latvia and Estonia would become part of the administrative unit designated as Reichkommissariate Ostland."

From there on Mr. Wytwycky analyz what happened in Byelorussia. He presents to the reader the tragic state of affairs: Byelorussians suffered from all sides. The German policies in Byelorussia iniiated and really inspired the formation of Communist guerillas, and russia initiated and really inspired the changed the attitudes of Byelorussians toward the Germans. Following an analysis of specific events and exploring a variety of sources, although perhaps not very comprehensively, the author concludes that out of a total population of the Byelorussian Republic of 10.5 million (figure prior to the outbreak of World War II) total losses were as follows: 1.4 million Byelorussian civilian population; 245,000 Jews, and 380,000 Byelorussian Ostarbeiters. To these figures hundreds of thousands of Byelorussian POW's should also be added.

**Zora Kipel**

## IN HARVARD ENCYCLOPEDIA

**Cambridge, Mass., Harvard University Press, 1980. 1076 p.**

In the era of ethnic awareness and a resurgance of ethnic activities the appearance of this authoritative and extensive work is certainly most welcome. Among 106 ethnic groups covered by the encyclopedia, Byelorussians are discussed on pp. 181-184, and are also mentioned in connection with the articles on the Orthodox Church, Russians, etc. The main article about Byelorussians is signed by Paul Robert Magocsi. Following a general description of Byelorussians, supplemented with a map of Byelorussian ethnographic-linguistic territory and superimposed political boundaries (which, is in effect a reflection par excellence on the plight of the Byelorussian Nation) the author focusses his attention on terminology and a few instances of Byelorussian history. The author correctly states that during their long history Byelorussians were also known as **Licviny** and that Byelorussian elements (language, culture) were predominant in the Grand Duchy of Lithuania.

A lengthy discussion is provided of the history of Byelorussian settlement in the United States. The present structure of Byelorussian-American communities, their activities, interests, and cultural life are fairly accurately covered. However, the author does not entirely agree with available statistical data. He states: "Perhaps as many as 100,000 Byelorussians came to the United States between 1861 and 1914." This statement is not borne out by the facts since there is no authoritative source to substantiate it. The number is certainly high, as mentioned in numerous publications of the well-known Soviet Byelorussian demographer A. A. Rakau. The numbers cited for Byelorussian churches and organizations are similarly cited without sources, and, in our opinion, reflect less than the true situation. Regardless of these few shortcomings, however, this work will adequately serve its primary purpose, to provide valuable basic information about Byelorussians in America. Among the contributors and consultants we find two familiar names, viz., those of Prof. Thomas E. Bird and Dr. Vitaut Kipel.

**Zora Kipel**